**А вы чулі пра гэта?**

## Раўнівы страус

Па паведамленню агенцтва Reuter, нарвежскі фермер апынуўся ў бальніцы пасля таго, як на яго напаў страус. Страус прыраўнаваў да яго сваю сяброўку і ледзь не задзёўб небараку.

У Нарвегіі вельмі цэніцца мяса страуса, і таму ў апошнія гады фермеры, якія разводзяць гэтых птушак, з'явіліся па ўсёй краіне. Такая ферма была і ў 38-гадовага Ойстэна Фроеснеса.

Фермер утрымліваў аднаго самца і дзвюх самак, прычым двухметровы страус з'яўляўся прадметам асаблівага гонару гаспадара. Звычайна гадаванцы паводзілі сябе добра, але ў панядзелак самец прыкметна нерваваўся. Фермера ўстрывожылі паводзіны жывёліны, і ён вырашыў паглядзець на страуса зблізку. Але варта яму было зайсці ў клетку, як двухметровы самец накінуўся на гаспадара і стаў дзяўбці яго і таптаць нагамі. Як растлумачылі пасля заолагі, страус, відаць, вырашыў, што чалавек мае намер праявіць сексуальны інтарэс да страусіх і кінуўся абараняць сваіх сябровак.

Аказалася, што страус дужэйшы за чалавека. Ва ўсялякім разе, гэты канкрэтны экземпляр. Фермера выцягнулі з клеткі з пераламанымі рэбрамі і пашкоджаным лёгкім. Суседзі пацярпеўшага (яны таксама вырошчваюць страусаў) аказаліся больш абачлівымі. Яны здагадаліся, што пачаўся шлюбны сезон, і ў клетку да сваіх птушак, якія таксама крычалі і хвалявaліся, не палезлі.

## Дактыласкапія немаўлят

Акушэрак англійскай бальніцы Дарлі-роўд вучаць у паліцэйскім участку знімаць адбіткі пальцаў ступні. Аднойчы медсёстры лячэбніцы пераблыталі двух немаўлят, і бацькі выявілі гэтую падмену толькі дома. Каб гэта не паўтарылася, пасведчанне аб нараджэнні дзіцяці цяпер будзе ўтрымліваць адбіткі яго ножак. На ўсякі выпадак.

## Ваша здароўе

Рэгулярнае ўмеранае спажыванне ў ежу рыбы спрыяе прафілактыцы развіцця макулярнай дыстрафіі — захворвання вачэй, якое прыводзіць да слепаты. Да такой высновы прыйшлі вучоныя, якія апублікавалі ў апошнім нумары часопіса Archives of Ophihalmolg, у выніку даследавання, пры правядзенні якоганазіралася больш як 3 тысячы чалавек.

Вядома, што ў сетчатцы — светаўспрымальнай абалонцы вока — утрымліваецца вялікая колькасць так званых 3-амегатлустых кіслот. Гэтыя злучэнні засцерагаюць колера- і светаўспрымальныя элементы вока ад акіслення пад уздзеяннем святла. У выніку недастатковага паступлення гэтых рэчываў з ежай, на думку вучоных, развіваецца макулярная дыстрафія — захворванне, якое імкліва прыводзіць да слепаты.

Вучоныя адзначаюць, што прафілактычным уздзеяннем валодае менавіта ўмеранае спажыванне рыбы.

## А яшчэ быў выпадак...

Дваццаць гадоў турэмнага зняволення за спакушэнне непаўналетніх атрымаў адзін 69-гадовы жыхар Нью-Йорка. Прадставіўшыся дзвюм дзяўчынкам... прышэльцам з космасу, ён сказаў, што прысланы на Зямлю набраць атрад прыгажунь з высокім узроўнем інтэлекту для цывілізацыі на планеце Кабел.

Згуляўшы з імі ў карты на распрананне (каб дапамагчы дзяўчатам пераадолець унутраную збянтэжанасць), ён заняўся сексам з абедзвюма. Па яго словах, "ін'екцыя касмічнага семя" павінна была засцерагчы дзяўчат ад касмічных вірусаў. Але адной з дзяўчынак падалося, што па інтэлекту яна не дабірае, каб ляцець у космас, і яна падзялілася сваімі сумненнямі з маці. Так распуснік і аказаўся на лаве падсудных.

## Калі вы так, дык мы — гэтак

Японская асацыяцыя вытворцаў лыж паспрабавала абмежаваць імпарт лыж еўрапейскіх марак у Японію. Яна заявіла, што снег у Краіне узыходзячага сонца мае іншую структуру, чым на Захадзе, і еўрапейскія лыжы тут непрыгодныя. Тады міністэрства замежных спраў Францыі заявіла, што пакрыццё дарог у Францыі адрозніваецца па асноўных уласцівасцях ад дарог Японіі, і таму ўвоз японскіх аўтамабіляў трэба абмежаваць. Ужо праз некалькі гадзін японцы прызналі, што снег у іх такі ж, як і ўсюды.

## Не кожны на такое здольны

Калі ў 1909 годзе ў кітайскім раёне Сан-Францыска пабудавалі тэлефонную станцыю, ад тэлефонных аператараў патрабавалася добрае веданне англійскай і пяці дыялектаў кітайскай мовы. Акрамя таго, тэлефонныя аператары павінны былі мець фенаменальную памяць: ім трэба было ведаць на памяць прозвішча і нумар кожнага з 2400 абанентаў, таму што кітайцы лічылі няветлівым выклікаць чалавека па нумару. Да таго ж шукаць прозвішча ў даведніку вельмі доўга.



*Сярод вірлівага жыцця.*

*Фота Валерыя БЫСАВА.*

**Зялёная аптэка**

## Мята перцавая

Сярод раслін, дзеянне якіх вельмі шырокае, можна смела выдзеліць мяту перцавую. Яна шматгадовая. Ужываюць лісточкі, сцяблiны, кветкі. З іх гатуюць салаты і выкарыстоўваюць як спецыі ў час засолкі і кансервавання агуркоў і памідораў. Высушанае ідзе ў шматлікія напоі асабліва ў гарбату. Яшчэ можна араматызаваць воцаты, падліўкі, вінныя вырабы.

Выдатны лекавы сродак. Дастаткова ўзяць 5 грамаў высушаней зеляніны на шклянку вады, каб зняць нуду, млоснасць. Гэты ж састаў добры як жаўцягонны сродак.

Састаўной часткай мяты перцавай з'яўляецца эфірнае масла. Яго прымяненне самае шырокае. А ментол (яго ў 100 міліграмах да 1,5-3 працэнтаў!) шырока выкарыстоўваецца для вырабу валідолу — прэпарату, які неабходны кожнаму, хто пакутуе ад сардэчнай недастатковасці. З ментолу робяць і розныя іншыя таблеткі, і парашкі.

Лісце і кветкі ўтрымліваюць у 100 г да 25 міліграмаў аскарбінавай кіслаты, да 8 — каратыну, да 13,8 — руціну. А які гэта выдатны меданос! Пчолы літаральна ліпнуць да кветак. Відома ж, мядовая прадукцыя таксама ўтрымлівае розныя гаючыя рэчывы.

Расліна не баіцца маразоў. 5-7 градусаў ніжэй нуля — для яе не перашкода. Замерзне, адтае і зноў працягвае развіццё. Сцябло з лісцямі (яны размешчаны адзін супраць другога) вырастае да метра.

Каранёвая сістэма залягае неглыбока — да 20-30 см. Выпрымлівае высокі ўзровень грунтавых водаў. Таму лепш і ладкаваць плантацыі на нізінах — там больш вільгаці. Абавязкова на сонцы.

Самі глебы акультураныя. Пад папярэднікі (азімыя культуры, караняплоды, бабовыя) уносіліся кампост ці перапрэлы гной — вядро на адзін кв. метр. Зусім не будзе праблем, калі дададзім попел — тыя ж дзве лыжкі. Усё старанна загорнута ў глебу на глыбіню да 20-30 см (узровень залягання каранёў).

Азотам не захапляцца, інакш прадукцыя набудзе не тыя кандыцыі. А вось бор і цынк садзейнічаюць назапашванню лекавых дозаў. Гэтых мікраэлементаў зусім нямнога — па пяць грамаў на вядро вады — уносіць пры палівах.

Размнажаецца расадай (як памідоры), часткамі каранёў, атожылкамі. Імкнуцца, каб добра развіліся карані, яны, і толькі яны, працуюць на будучы ўраджай зялёнай і кветкавай масы.

Зрэшты, зацвітае наша мята на зыходзе ліпеня ці пачатку жніўня. Гэты перыяд найлепшы для нарыхтовак. Сцяблiны зрэзаць. Можна на градцы падвяліць, перавярнуўшы адзін-два разы. А канчатковая сушка адбываецца на цёплым гарышчы, дзе гуляе ветрык ці ёсць прыкметны рух паветра. Не дапускаць да стану, калі ўсё, нават лісце, ломіцца. Захоўваць у сухіх месцах у папяровых пакетах ці мяшочках з паркалю (цэлафан не гадзіцца).

А цяпер некалькі рэцэптаў. Самы пашыраны — гарбата. Нашы лісцікі (кветкі, сцяблінкі) класці разам са звычайнай гарбатай, залiваць гатаванай вадой. Чайнік з фарфору. Накрываць ручніком і трымаць у "палоне" да 15 хвілін.

Соус гатуюць так. На кожныя чатыры лыжкі воцату дадаць адну лыжку цукру, дзве цукеркі з мармеладу, адну чайную лыжку парашку мяты, чатыры лыжкі вады і гатаваць да 10 хвілін. Вельмі аздабляе мясныя стравы, а яшчэ добры дадатак да розных страў з агародніны.

Калі ўжываць мяту ў невялікіх дозах, ніякіх непажаданых з'яў не будзе. Але папярэдне абавязкова параіцца з доктарам.

**Крыху гісторыі**

## Падение Константинополя

В апреле 1453 г. стотысячная армия турецкого султана Мехмеда II осадила Константинополь, собственно Византийскую империю, ибо ее границы к тому времени совпадали с городскими стенами. Противостоял им лишь семитысячный отряд защитников города во главе с императором Константином XI. Турецкий султан дал клятву не класть оружия до тех пор, пока в Европе остается хоть один христианин... В жестоком бою погибли почти все защитники столицы во главе с императором. Византийская империя перестала существовать. Это событие стало этапным в мировой истории.

Закрытое теперь турками Средиземное море вынудило европейских купцов искать новые пути в Азию. Так начались Великие географические открытия. Фактически на обломках Византии, в Италии началась эпоха Возрождения. А на противоположной стороне Европы, в Московском царстве, ставшим единственным к тому времени независимым оплотом православия, появилась идея о третьем Риме. Московские цари стали называть себя прямыми наследниками византийских императоров, а Москву — новым Царьградом.

## Адным сказам

У бібліятэцы Оксфардскага ўніверсітэта (Англія) няма фармальнай забароны на курэнне, але кожны, хто запісваецца ў бібліятэку, дае прысягу не запальваць у ёй агню.

**Куток садоўніка**

## Если увяла земляника

Эта болезнь называется фитофторозное увядание. Оно проявляется очень своеобразно. Листья здоровых, хорошо развитых растений без каких-либо внешне заметных изменений внезапно поникают. Причем первыми привядают краевые листья, а затем и центральные. Бывает и иначе: поникает сначала центральный, самый молодой лист. Часто листья переворачиваются нижней стороной кверху, на многих из них с краев появляются обширные бурые отмершие участки, которые вскоре охватывают почти всю листовую пластинку. Растение распластывается по почве, засыхает, полностью, буреет и гибнет за несколько дней.

Симптомы заболевания можно найти и на плодах. Мелкие зеленые завязи при поражении фитофторозом буреют целиком и быстро ссыхаются. На ягодах образуются желтовато-бурые светлые водянистые пятна, которые затем увеличиваются в размерах и охватывают весь плод.

На спелых ягодах сначала появляются водянистые светлые пятна, но они могут приобретать лиловый или фиолетовый оттенок. На разрезе плода хорошо заметно побурение сердцевины. На ощупь она упруга. Это один из главных признаков фитофторозной гнили, позволяющий легко отличить ее от гнилей серой и черной.

Наиболее восприимчивы к фитофторозу сорта "фестивальная", "родник", "надежда", "ранняя Махераука". Более устойчивы "кокинская ранняя", "Зенга-Зенгана".

Меры борьбы с болезнью агротехнические. При посадке земляники надо избегать участков с очень тяжелой, плохо дренированной почвой. В качестве предшественников следует предпочитать зерновые и пропашные культуры, не сажать землянику после картофеля, томатов, саженцев плодовых и ягодных культур. Новые плантации закладывайте здоровыми растениями. Тщательно обрабатывайте почву, уничтожайте растительные остатки, сорняки, являющиеся накопителями инфекции. Если все же земляника заболела, удаляйте пораженные растения с участка, ягоды уничтожайте.

**Г.БАРБАТУНОВА,**
**кандидат биологических наук.**

## Анекдот из конверта

Жена говорит мужу:

— Сегодня вышел указ, что у кого десять детей, тем будут давать шестикомнатные квартиры, машину и платить на каждого по 15 тысяч ежемесячно.

— Ну и что?

— Помнишь, ты мне признался, что у тебя где-то растет сын? Забери его к себе и у нас будет 10 детей.

Муж согласился и уехал. Вернувшись через неделю с сыном, застает жену одну дома.

— А где же дети?

— Приезжали их отцы и забрали.

**Виктория ЛИТВИНЧУК.**

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара — 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 24 траўня 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 4579 ас. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ № 21.

**Галоўны рэдактар**
**Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**